40

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 41 (2391) 13 кастрычніка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 20 рублёў.

## ЦІ ЁСЦЬ ШТО АГУЛЬНАЕ ПАМІЖ ГІСТАРЫЧНАЙ НАВУКАЙ І ДАМАЙ НА БАЛІ?

# З-ПАД ЗНАКУ БЯДЫ — НАРЭШЦЕ ДА ЎДАЧЫ



*"З-пад знаку бяды -- нарэшце да ўдачы", відаць, так можна ахарактарызаваць гістарычны шлях Беларусі. Хаця пакуль яшчэ рана казаць, што мы ўжо схапілі за хвост сінюю птушку шчасця. Вельмі ж няпроста складваецца ўсё для нашай краіны: гістарычныя катаклізмы, палітычная калатнеча... Ды звычайна: радасць не без гора, як і наадварот.*

*Пра дачыненні гістарычнай навукі, яе ацэнак, трактовак з палітыкай, выхаваннем, сучаснымі грамадскімі пераўтварэннямі разважае пісьменнік, гісторык, філолаг, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, прафесар Алег ЛОЙКА.*

**-- Да гісторыі ў нас звяртаюцца і палітыкі, і настаўнікі, і проста любы чалавек, якому трэба нешта патлумачыць пасвойму. Прычым выкарыстоўваюць гістарычныя факты нярэдка, як каму хочацца. Ну а літаратары -- бадай, галоўныя "карыстальнікі" гісторыі. Яны прэпаруюць яе так, як таго патрабуе іх творчая задума. Алег Антонавіч, наогул, гісторыя -- аб'ектыўная навука ці суб'ектыўная!**

-- Трэба адразу, відаць, адрозніць гісторыю-навуку і гісторыю -- рэальную, дадзеную аб'ектыўнасць. Калі ёсць рэальная аб'ектыўнасць, то можа быць і рэальнае, аб'ектыўнае яе вывучэнне, даследаванне. Але гэтага можна дасягнуць, толькі арыентуючыся на пэўныя крытэрыі, якія б не дапускалі суб'ектывізму.

**-- Ці існуюць такія крытэрыі! Наогул, ці існуюць такія ўмовы, пры якіх тлумачэнне гістарычных падзей і асоб не дапускала б суб'ектывізму!**

-- Калі ёсць навука, значыць ёсць і мажлівасць быць у ёй і аб'ектыўным, і ў той ці іншай ступені суб'ектыўным. Але думаецца, што вучонаму, а тым больш пісьменніку без некатарай долі суб'ектывізму не абысціся. Праўда, пісьменніцкая суб'ектыўнасць носіць, так бы мовіць, дазволены характар, у яго гэта -- версійнасць. "Чыстага" ж навукоўца абавязвае ФАКТ, выверaная, лагічная канцэпцыя, якая б у найбольшай ступені набліжалася да праўды падзей, праўды моўленага, зробленага, да ацэнак справядлівых. Бо калі пануе прынцып ацэнкі па справядлівасці, тады, я разумею, будзе навука аб'ектыўнай.

**-- Сапраўды, сам гістарычны факт -- рэч бясспрэчная. Але ж тлумачэнне гэтага факта...**

-- Так, нельга дапускаць падмены паняццяў. Гісторыя -- рэальнасць і гісторыя, якая пішацца. Яна ствараецца, зрэшты, у кожным часе па-новаму, бо кожны час разумнейшы за мінулы.

**-- У такім выпадку, ці нармальна, што ў кожным часе пішацца "свая" гісторыя!**

-- Я думаю, так. Карамзін -- гэта адна гісторыя, савецкі перыяд -- другая гісторыя, гісторыя Ігнатоўскага -- менавіта яго гісторыя.

**-- Атрымліваецца, не існуе адзінай "пісанай" гісторыі! Кожны час дыктуе сваё!**

-- Справа ў тым, што пісаў гісторыю і мой настаўнік па універсітэту Абэцэдарскі. У тым ліку і пра фальсіфікацыю гісторыі. Але, на мой погляд, ён сам быў фальсіфікатарам перш за ўсё. Яго гісторыя была сапраўды ангажыравана тагачаснай ідэалогіяй, тагачаснымі палітычнымі догмамі замест ангажыраванасці ідэаламі.

**-- Але і ідэалы -- рэч суб'ектыўная. На той час, час Абэцэдарскага, сапраўднымі лічыліся ідэалы, што дыктаваліся са "штаба партыі" -- ЦК КПСС.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПАСЛЯ 21-й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

# ДА СУАЙЧЫННІКАЎ НА ДРУГІ БОК ЗЯМЛІ

Разам са старшынёй Рады згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганнай Сурмач ляцім на 21-ю сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі (Таронта, 3--5 верасня), а па дарозе хочам пабачыцца з беларусамі ЗША і Канады. З сумам адзначаем, што на мытні дэкларацыі на многіх мовах, апрача беларускай. Але затое з пачуццём гонару сядаем на самалёт кампаніі нашай краіны "Белавія" і яшчэ з большай радасцю чуем, як маладыя прывабныя сцюардэсы даюць аб'явы на беларускай і ангельскай мовах. Аэрапорт Шэнан -- перасадка на вялікі (больш 400 пасажыраў) лайнер ірландскай авіякампаніі. Як удала скарыстала Ірландыя сваё геаграфічнае становішча! А знаходжанне Беларусі ў цэнтры Еўропы на скрыжаванні шляхоў з Захаду і Усходу, з Поўдня і Поўначы ці зможа наш урад таксама выкарыстаць дзеля ўзбагачэння сваёй краіны?

Паводле неафіцыйных падлікаў беларусаў па штатах у ЗША, прыведзеных у вядомай кнізе Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША", колькасць нашых суайчыннікаў там больш за 800 тысяч, а з улікам Канады не менш 1 мільёна. Але па прыездзе ў Амерыку і Канаду многіх з іх прымусова стараліся запісаць рускімі, палякамі ці нават украінцамі, ды і самі яны часта хутка асіміляваліся сярод гэтых і іншых нацыянальнасцяў. Свядомых беларусаў-эмігрантаў, якія стварылі існуючыя зараз згуртаванні, царкоўныя і грамадскія арганізацыі, навуковыя і культурныя цэнтры, выдалі многія кнігі, часопісы, газеты і г.д., значна менш. Але менавіта яны трымалі і развівалі многія дзесяцігоддзі беларускасць у Паўночнай Амерыцы, і мы ехалі да іх.

Зора Кіпель (галоўны рэдактар газеты "Беларус") і Вітаўт Кіпель (дырэктар Беларускага інстытута культуры і мастацтва ў Нью-Йорку) пазнаёмілі нас з выдатнай Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкай і асабліва з яе Славяна-Балтыйскім аддзелам, у якім ёсць досыць багаты блок беларускай літаратуры. Дарэчы, пазней мы былі ў такіх жа бібліятэках Кліўленда, Чыкага і ва універсітэцкай бібліятэцы Таронта. Гэта сапраўдныя палацы з вялікай колькасцю літаратуры з усяго свету, зручнымі заламі, картатэкай на камп'ютэрнай аснове. Найбольш багата беларуская літаратура як мастацкая, так і навуковая прадстаўлена ў Таронта. Тут за некалькі хвілін на камп'ютэры я змог убачыць назвы і сваіх прац, і прац маіх беларускіх калег-геолагаў. Зусім малую колькасць выпадковых выданняў мы ўбачылі ў Чыкага, дзе загадчыца аддзела славянскай літаратуры, украінка па паходжанню, растлумачыла: "Ніхто не цікавіцца". Кіпелі пазнаёмілі з важнай працай, якую яны зараз вядуць: выданнем газеты "Беларус", падрыхтоўкай бібліяграфіі ўсіх выданняў беларускага замежжа, бязвыплатнай адпраўкай гэтых выданняў у Беларусь у Цэнтральную дзяржаўную бібліятэку Мінска.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**



**У канцы верасня ў Нясвіжы прайшоў міжнародны сімпозіум "Нясвіж як агульнаеўрапейская гісторыка-культурная каштоўнасць".**

*(Матэрыял пра сімпозіум "Гістарычная спадчына павінна аб'ядноўваць народы" змешчаны на 6-й стар.).*

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ*

## ГАНАРОВАЕ ЛІДЭРСТВА

**Па большасці пазіцый вытворчасці важнейшых відаў харчовых тавараў Беларусь сярод дзяржаў Садружнасці займае ганаровае першае месца. У працэнтах да аналагічнага перыяду мінулага года ў нас атрымана 84 працэнты мяса, 85 працэнтаў масла, 149 працэнтаў алею, 101 працэнт цэльнамалочнай прадукцыі і 274 працэнты цукру-пяску. Дарэчы, па трох апошніх пазіцыях гэта самы высокі паказчык. У вытворчасці мяса лідзіруе Арменія -- 121 працэнт, масла -- Малдова (111 працэнтаў).**

*ЦІ НЕ ЗАМАХ?*

## АХОВА ПРЭЗІДЭНТА ЎЗМАЦНЯЕЦЦА

**Пасля выбрання Прэзідэнта Беларусі журналісты і чыноўнікі Дома ўрада сутыкнуліся з сур'ёзнай праблемай наведвання будынка, дзе зараз размясцілася і прэзідэнцкая адміністрацыя. Цяпер карэспандэнцкага пасведчання недастаткова, а спіс адказных работнікаў Дома ўрада рыхтуецца ледзь не кожны дзень. Узоры пропускаў мяняліся ўжо некалькі разоў.**

**Прэзідэнт лічыць узмацненне аховы абгрунтаваным, бо мае даныя аб актывізацыі сваіх нядобразычліўцаў, у першую чаргу, ад камерцыйных структур. Аднак па больш падрабязную інфармацыю А.Лукашэнка адправіў журналістаў да міністра ўнутраных спраў. Юрый Захаранка, у сваю чаргу, на пытанне карэспандэнта РІДа адказаў вельмі лаканічна: "Мы атрымліваем звесткі, якія прымушаюць нас прыняць меры па ўзмацненню аховы Прэзідэнта і яго адміністрацыі. І магу вас запэўніць, гэта больш сур'ёзна, чым вы можаце меркаваць".**

*ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЗА МЯЖОЙ*

## ДАПАМОГА НА ПАХАВАННЕ

**Прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір падпісаў пастанову аб зацвярджэнні палажэння аб парадку выплаты пенсій грамадзянам, якія выехалі на пастаяннае жыхарства за мяжу. У ёй, у прыватнасці, гаворыцца, што ў выпадку смерці пенсіянера, якому пераводзіцца пенсія за мяжу, выплачваецца дапамога на пахаванне ў адпаведнасці з артыкулам 91 "Аб пенсійным забеспячэнні". Дапамога на пахаванне пераводзіцца ў замежнай валюце па адзінаму курсу валют, устаноўленаму Нацбанкам Беларусі на дзень смерці пенсіянера.**

*СТАН НАВУКІ*

## ДАСЛЕДАВАННІ ЗГОРНУТЫ

**Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі трэба будзе скараціць да 30 працэнтаў сваіх супрацоўнікаў, агульная колькасць якіх складае сёння 134 чалавекі. Цяжкае фінансавае становішча, у якім апынулася сёння айчынная навука, прывяло да таго, што цалкам згорнуты археалагічныя даследаванні, апошнія тры гады не вядуцца планавыя раскопкі. З-за недахопу сродкаў на камандзіроўкі нашы вучоныя, якія вядуць даследчую работу па гісторыі Беларусі дасавецкага перыяду, пазбаўлены магчымасці працаваць у архівах Расіі, Літвы, Польшчы, дзе захоўваюцца асноўныя дакументы.**

*АЛЕНЕГАДОЎЛЯ*



**Усё больш гаспадарак у Беларусі разводзяць плямістых аленяў. Яны даюць не толькі далікатэснае мяса, выдатную скуру, але і лекавыя рогі-панты. З іх атрымліваюць многа самых дэфіцытных лякарстваў, асноўнае з якіх славуты пантакрын -- эліксір бадзёрасці і здароўя.**

**Тры гады таму завезлі такіх аленяў і ў калгас імя Горкага Пінскага раёна. Цяпер тут разам з маладняком 230 асобін. Атрыманы і першы збор пантаў.**

**Кіруе гэтай неспакойнай гаспадаркай нядаўні выпускнік біялагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута Юрый Дубінецкі.**

**НА ЗДЫМКУ: статак плямістых аленяў калгаса імя Горкага.**

*У ПАМЕЖНЫХ РАЁНАХ*

## ШКОЛЫ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ЛІТОЎЦАЎ

**У навучальныя ўстановы не толькі Літвы, але і Беларусі могуць паступаць выпускнікі няпоўнай сярэдняй школы з прыгранічнай вёскі Пеляса Воранаўскага раёна, дзе кампактна пражывае літоўскае насельніцтва, а выкладанне вядзецца на літоўскай мове.**

**З новага навучальнага года колькасць вучняў тут павялічылася ў паўтара раза. Такая магчымасць з'явілася дзякуючы інтэрнату, які адкрыўся для дзяцей з аддаленых вёсак. Пабудаваны ён на сродкі з літоўскага бюджэту. За кошт іх узведзены таксама школьны будынак і кватэры для настаўнікаў. А вось у вёсках Рымдзюны і Гярвяты Астравецкага раёна школы, дзе выкладанне для літоўскіх дзяцей таксама вядзецца на іх роднай мове, утрымліваюцца на сродкі мясцовага бюджэту. Дарэчы, ва ўсіх трох школах вывучаюць яшчэ беларускую і замежную мовы.**

*ФАРА ВІТАЎТА*

## ПАМЯЦЬ ПРА ФУНДАТАРА

**У Гродзенскім касцёле цяпер устанаўліваецца скульптурная кампазіцыя, якая ўключае партрэт караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя і медаль у памяць аб першым фундатары касцёла.**

**Па сваіх памерах першы касцёл у Гродне (Фара Вітаўта) з'яўляўся самым вялікім храмам сярод аналагічных яму на Беларусі. Гэта, аднак, не перашкодзіла гарадскім уладам у 1961 годзе разбурыць яго, а на яго месцы разбіць сквер і паставіць дошку гонару.**

**Цяпер на плошчы, якая раней насіла імя Стэфана Баторыя, дзе стаяла Фара Вітаўта і дзе да гэтай пары яшчэ стаіць касцёл езуітаў, з дазволу Гродзенскага епіскапа Аляксандра Кашкевіча пачаліся работы па ўстаноўцы ў інтэр'еры храма памятнай скульптурнай кампазіцыі, аўтарам якой з'яўляецца Валерый Калясінскі.**

*І ГЭТА — ЛЮДЗІ?*

## АДПОМСЦІЛА БАБУЛЯ

**Па-зверску збіла чацвертакласніка Новазелянкоўскай сярэдняй школы Чэрвеньскага раёна бібліятэкар гэтай жа школы.**

**Расправа адбылася ў пачатку ўрока, на вачах ва ўсяго класа і настаўніцы. Раз'юшаная жанчына ўдарыла хлопчыка галавой аб падлогу і шафу і нагой у жывот. Вынік -- страсенне мазгоў лёгкай ступені. Па сведчанню відавочцаў, напярэдадні здарэння хлопчык пакрыўдзіў маленькага ўнука жанчыны.**

## БАЦЬКА — ЗАБОЙЦА

**У Баранавічах дваццаціпяцігадовы А., знаходзячыся дома ў нецвярозым стане, выкінуў з акна пятага паверха свайго трохгадовага сына. Дзіця памерла ў бальніцы ад атрыманых траўм.**

**А ў вёсцы Малышкавічы Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці п'яны І. стукнуў кулаком па галаве сямімесячнага сына сваёй сужыцелькі. Дзіця выратаваць не ўдалося.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У ПЯТНАЦЦАЦІ дзіцячых садках Ліды арганізаваны гурткі па вывучэнню польскай мовы. У іх займаюцца звыш 250 дзяцей. Для выкладчыкаў дашкольных устаноў былі арганізаваны метадычныя курсы, якія вялі спецыялісты з Беластока.

ВЯСНОЙ 1995 года запланавана выязная выстава старажытнабеларускіх ікон у Францыі. Першымі экспанаты ўбачыць жыхары горада Гаяк, а завершыць сваё падарожжа экспазіцыя пад Парыжам.

Французскі бок ужо пачаў выданне добра ілюстраванага каталога да выставы.

НА ТАНКАРАМОНТНЫМ заводзе ў Барысаве знаходзіцца іспанская інспекцыйная група. Згодна з дамовай "Аб звычайных Узброеных Сілах у Еўропе", ваенныя спецыялісты праінспектуюць завяршэнне чарговага каляндарнага перыяду знішчэння танкаў і баявых машын пяхоты.

ГІБЕЛЬ парома "Эстонія" на Балтыцы забрала да тысячы жыццяў. Сярод ахвяр значыцца і прозвішча беларускі -- Мінчукова.

КАЛЯ 200 беларусаў сядзяць у турмах і следчых ізалятарах Польшчы. Абсалютная большасць іх затрымана польскай паліцыяй за разбой, ім пагражае доўгае турэмнае зняволенне і нават пакаранне смерцю.

ЗА ПАЎГОДА колькасць беспрацоўных у Беларусі перасягнула 90 тысяч. А патрэбнасць дзяржавы ў работніках -- 21 300 чалавек. Затраты на сацыяльную падтрымку грамадзян, якія маюць патрэбу ў працаўладкаванні, склалі 19 616 мільёнаў рублёў.

31 257 ШЛЮБАЎ зарэгістравана ў першай палове 1994 года. У параўнанні з такім жа перыядам 1993 года гэта складае толькі 86,3 працэнта. Вырасла колькасць разводаў у Беларусі -- 22 406, або 100,03 працэнта.

У БАРАНАВІЧАХ штодня збіраецца да 30 тысяч кубічных метраў рознага смецця, аднак вывозіцца на гарадскую звалку толькі 75 працэнтаў яго. Большасць адходаў даюць прамысловыя прадпрыемствы. Калі не будуць знойдзены меры па вывазу і перапрацоўцы адыходаў, горад у хуткім часе захлынецца ад смецця.

ТЭАТР драмы і музыкі адкрыецца з новага года ў Брэсце. Такое рашэнне прыняў абласны Савет народных дэпутатаў, ідучы насустрач дамаганням гараджан.

МАРАТ ЯГОРАЎ, старшыня Фонду міру Беларусі, стаў ганаровым грамадзянінам ірландскага горада Трэлі. Так адзначаны яго ўклад у развіццё сяброўскіх адносін з Ірландыяй і паспяховую рэалізацыю праграмы аздараўлення беларускіх дзяцей. Адначасова М.Ягораў атрымаў званне і ганаровага грамадзяніна Адэсы, якую ў вайну вызвалялі ад нямецкіх акупантаў.

*ЗАГЛАДЖВАЮЦЬ ВІНУ*



**Вытворча-камерцыйнае прадпрыемства "Усход" -- незвычайнае. Створана яно пры Крычаўскай спецкамендатуры, і асноўны касцяк яго складаюць людзі, што парушылі Закон. Многія папаліся на драбязях, але адумаліся і цяпер сумленна працуюць, каб загладзіць віну.**

**А вырабляюць ва "Усходзе" зрубы лазняў, дач, аконныя рамы, дзверы. І робяць якасна і хутка. Ад заказчыкаў няма адбою.**

**Неўзабаве тут пачнуць вырабляць і бетонныя блокі для будаўнічых патрэб.**

**НА ЗДЫМКУ: вось такія зрубы робяць ва "Усходзе".**

# З-ПАД ЗНАКУ БЯДЫ – НАРЭШЦЕ ДА ЎДАЧЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

-- Гэтыя ідэалы ў сваёй абстрактнасці былі і неблагія, але іх акаляла дэмагагічная атмасфера, якая навязвала нешта сваё, пры гэтым падмяняючы паняцці рэальна гуманістычныя кан'юнктуршчынай, лозунгамі, скарасцелымі дактрынамі. Таму тая гісторыя, якую мы мелі ў савецкі час, наскрозь пабудаваная на міфах, містыфікацыі, фальсіфікацыі, заідэалагізаваная, схематычная.

**-- Тое, што вы кажаце, тычыцца толькі савецкай гісторыі? Ці нешта з гэтых эпітэтаў можна адрасаваць і гісторыям, напісаным у іншыя часы?**

-- Я не згодны са сцвярджэннем, што гісторыя -- гэта заўсёды сучаснасць, павернутая ў мінуўшчыну. Якраз савецкая гісторыя -- прыклад кан'юнктуры, гісторыі, якая зыходзіла з пэўных палітычных, сацыяльных, эканамічных дактрын і запатрабоўвала дастасавання да іх гісторыі.

**-- А хто звычайна больш грашыць кан'юнктурнасцю: гісторыя ўвогуле ці тыя, хто яе піша?**

-- Больш за ўсё -- палітыкі, якія ставяць гісторыю сабе на службу. Палітык заўсёды чакае "свайго" гісторыка, які будзе падыгрываць яму ў дудку.

Дарэчы, перапісваць гісторыю і цяжка, і адказна, бо ў той ці іншай форме застаюцца жыць старыя погляды, якімі могуць нават "палохаць" новых даследчыкаў, выдаючы іх за своеасаблівыя аксіёмы, якія нельга пераасэнсоўваць. Але навука для таго і існуе, каб увесь час да нечага вяртацца, пераасэнсоўваць і тым самым набліжацца да вышэйшай ступені ведаў. Ды і пасюль мы зашораныя, не можам пазбыцца старых міфаў, што вельмі складана. Зведаў гэта і я.

**-- Лічыцца, што дакладная ацэнка, трактоўка гістарычных падзей магчымая толькі праз даволі працяглы тэрмін, калі ўжо практычна не застанецца жывых сведак падзей з іхнімі эмоцыямі. Ці згодны вы з гэтым?**

- Я, відаць, згадзіўся б часткова. Нашы нашчадкі, хутчэй за ўсё, будуць больш ведаць пра наш час, чым мы, змогуць бліжэй падысці да аб'ектыўнай ацэнкі. Мы ўсё ж такі ў сваім часе шмат чаго не можам зразумець, убачыць. Гэта, відаць, заканамерна. Пераасэнсаваць, нанава ўвайсці, збудаваць новыя канструкцыі -- не так проста, ведаю з уласнага вопыту, калі даводзілася выходзіць на іншае разуменне з таго, якое сам жа і прадстаўляў у сваіх артыкулах ці падручніках. Мне здаецца, майму пераемніку сцвердзіць новую канцэпцыю лягчэй: ён не будзе звязаны тым, што было ў мяне, хаця і ён павінен ведаць ранейшае і не замоўчваць яго. З песні слова не выкінеш.

**-- У нас, на жаль, асэнсаванне ранейшых тэорый, канцэпцый больш зводзіцца да поўнага іх адмаўлення: маўляў, тады памыляліся, затое зараз усё -- чыстая праўда. Ці не даводзіцца вам апраўдвацца перад маладымі такім чынам?**

-- Я не гавару, што я памыляўся. Я гавару, што мне прыходзілася тады нешта недамаўляць. І хаця часам разумеў больш, але ў мяне не было магчымасці расказваць пра сваё разуменне. Канешне, мы крок за крокам усё ж такі выходзілі на новыя ідэі, на новае разуменне, пашыралі абсяг таго, што падлягае вывучэнню.

**-- Зразумела, што тады існавала цэлая сістэма "табу". Але ці не здаецца вам, што і зараз існуе такая ж сістэма, толькі іншых "табу"? Мне думаецца, такая сістэма складваецца пры кожным палітычным рэжыме. Немагчыма мець пэўную, вызначаную палітычную сістэму і не мець адпаведнай сістэмы ідэалагічных і сацыяльных "табу".**

-- Я б тут з вамі не згадзіўся. Зараз, ва ўсялякім разе, нада мной нічога падобнага няма. Я што думаю, тое і гавару. Вось раней -- так, я не мог напісаць тое, што хацеў. Мае вершы скарачаліся, не друкаваліся, я ведаў, што яны не ўбачаць шырокі свет.

Іншадумства існуе і сёння, але цяпер гэта ўспрымаецца нармальна: няхай будзе плюралізм. Асабліва ў навуцы. Навука толькі тады і навука, калі яна шматканцэптуальная. У нас у гісторыі павінна быць з дзесятак навуковых школ. А цяпер пакуль наогул, лічу, школы не акрэсліліся, пакуль толькі аўтары ёсць, а школ яшчэ няма. Але мы стаім на парозе стварэння школ, прынамсі ў літаратуразнаўстве.

**-- У гісторыі ў нас, мабыць, можна было назваць "школай" Абэцэдарскага? А больш няма?**

- Калі казаць пра тых, хто вылучыўся пазней, можна ўзгадаць Васіля Мялешку, вакол якога паявілася некалькі сапраўды заўважных гісторыкаў. Ёсць цікавыя навукоўцы і сярод маладых, але школай гэта яшчэ не назавеш. Наадварот, вось зараз пайшлі падручнікі па гісторыі: гэта калектыў аўтараў, не адна школа. Тут сабраліся і больш вопытныя, і менш вопытныя, з канцэпцыямі і гэткімі, і такімі. Карацей, школьныя падручнікі -- гэта яшчэ не школа, хаця словы і збягаюцца. Але думаю, "школы" ў нас недзе не за гарамі, з'явяцца.

**-- Алег Антонавіч, я так разумею, вы згаджаецеся, што гісторыя (а мо гісторыкі?) у пэўным сэнсе абслугоўвае палітыку, ідэалогію, некаторыя сацыяльныя рэформы. Гэта вам бачыцца з'явай цалкам адмоўнай?**

-- Можа, не "абслугоўвае"... Да яе, да гісторыі, зварочваюцца. І палітыкі, і шмат хто яшчэ. Калі ўжо выкарыстоўваць слова "абслугоўвае", то тады, калі мы гаворым пра гісторыю і нацыю, народ, дзяржаву. Гісторыя ў першую чаргу павінна фарміраваць светаразуменне, фарміраваць асобу чалавека, патрыёта.

**-- Да гэтага я, дарэчы, і вяла... Выхаваўчая функцыя гісторыі, мабыць, адна з найгалоўных. Каб ярчэй давесці да моладзі пэўныя духоўныя, культурныя каштоўнасці, ці магчыма нешта з мінулага -- падзей, асоб -- прыхарошыць, прыўзняць на шкале нацыянальных дасягненняў? Прычым выключна з высакароднымі мэтамі: дзеля карысці нацыі і дзяржавы.**

-- Вы гаворыце пра ідэалізацыю. Не, ідэалізаваць не трэба. Гісторыя дае столькі сапраўдных прыкладаў гераічнага і ідэальнага, што іх хопіць на ўсе педагагічныя захады.

**-- Але, можа, у нас, у беларускай дзяржаве, дзе нацыянальная самасвядомасць, нацыянальны гонар пакуль, мякка кажучы, не на самым высокім узроўні, такі падыход некаторай ідэалізацыі падзей і беларускіх дзеячаў якраз і не пашкодзіў бы?**

-- Ведаеце, палітыкі -- яны ўвогуле антыгісторыкі. Ленін -- "новую" эру ў гісторыі адкрыў, а дагэтуль -- перадгісторыя. Мусаліні, увогуле, увёў летазлічэнне з дваццаць трэцяга года. Чаму? Таму што гісторыя часта супраць іх. Канешне, каб зрабіць чалавека савецкім чалавекам, трэба было ў яго забраць ранейшую гісторыю і выхоўваць ад выбуху "Аўроры". Думаю, што мудры палітык -- той палітык, які гісторыю паважае, не баіцца яе, бо яна, гісторыя, вучыць. Што было -- тое было, яго не выкінеш. Я пісаў пра Скарыну, "прайшоў" праз усе летапісы, скрозь усю літаратуру па гэтаму пытанню: і рускую, і польскую, і іншую... І, канешне, карціна можа быць недаспадобы нашым суседзям: і ўсходнім, і заходнім, і паўночным, і паўднёвым... Таму што хапае фактаў, якія хацелася б нават і не ведаць. Але што ж, калі гэта было... Трэба ведаць, але гаварыць пра гэта з вялікім тактам. Я рыхтаваў даклад "Паляк вачыма беларуса" і прыйшоў да высновы, што недзе да XVI стагоддзя ў вачах беларуса паляк -- вельмі добры сусед, з якім прыязныя адносіны. У той час як адносіны з усходнімі суседзямі, расейцамі, былі больш складанымі, асабліва ў XYII стагоддзі... Вельмі многа крыві пралілося, вельмі многа. Завяршылася гэта для нас, беларусаў, па сутнасці, трагічна: з канцом Рэчы Паспалітай скончылася дзяржаўнасць Польшчы і скончылася дзяржаўнасць Вялікага Княства Літоўскага. А мы ж гэта былі -- Вялікае Княства Літоўскае. Мы, нашы продкі! На жаль, са стратай дзяржаўнасці страцілася і памяць пра дзяржаўнасць, ранейшую гісторыю, пачалася гісторыя сельскай Беларусі, селяніна, якую ў савецкія часы мы толькі і прымалі за свой пярэдадзень.

**-- Здаецца, якраз гісторыя Вялікага Княства Літоўскага сёння найбольш яскравы прыклад выкарыстання гісторыі з мэтай палітычнай кан'юнктуры, з самых розных бакоў...**

-- Тут проста адбылася падмена тэрмінаў: нашы продкі называліся не так, як мы зараз. Нават яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя Мінск зваўся Мінск Літоўскі. А Брэст -- Брэст Літоўскі. Былі літоўскія губерні -- Ковенская, Гродзенская, Віленская. Гэта як вынік выхаду з Вялікага Княства Літоўскага. А беларускія значыліся -- Магілёўская і Віцебская губерні. Пазней Павел І адмяніў слова "беларускі". Потым тое ж зрабіў Мікалай І. Нашы продкі былі ліцвіны. А ліцвін і літовец -- зусім розныя з'явы, розная кроў.

Што зрабілі літоўцы ў 1918 годзе, калі падпісваўся Версальскі дагавор? Яны прывезлі акты Вялікага Княства Літоўскага на старабеларускай мове, дакументы, статуты: маўляў, вось у нас была дзяржава, і мы патрабуем яе аднаўлення. Што прывезлі тады бэнээраўцы, Антон Луцкевіч? Нічога ён не прывёз. Яны аб'явілі Беларускую Народную Рэспубліку -- перанеслі назву фактычна ўсходніх земляў. Хаця ў гэтым не яны былі першымі. Першым перанёс тэрмін "беларускі" на ўвесь абшар, дзе мы сёння жывем, Багушэвіч.

**-- Але коп'і будуць ламацца яшчэ доўга...**

-- Можа, і так. Бо блытаніны хапае. У Францыі мне давялося нават сутыкнуцца з тым, што Белую Русь атаясамлівалі з белагвардзейшчынай, белым рухам часоў грамадзянскай вайны.

Я цяпер не за тое, каб вяртаць нам назвы гістарычныя, зрэшты, мы ўжо ўсталяваліся. Надыдзе час -- і Еўропа, свет адкрыюць Беларусь.

**-- Можа, для таго каб гэта адкрыццё адбылося хутчэй, нам трэба самім крыху паварушыцца? Урэшце і некаторая доза нацыяналізму не пашкодзіла б?**

-- Асабіста я роўна шаную, паважаю і рускае, і польскае, і сваё беларускае. Наша Беларусь заўсёды, з XIY стагоддзя -- поліэтнічная. І Крэўская, і Люблінская уніі ядналі і рабілі тую ж Рэч Паспалітую радзімай адначасова і палякаў, і беларусаў, і літоўцаў, і ўкраінцаў, і татар, і яўрэяў, і караімаў, і рускіх-старавераў, якія засялялі тады Налібокі, Паазер'е. Карацей, ёсць звужанае разуменне Рэчы Паспалітай, як толькі польскай дзяржавы, і яно павінна быць пераадолена. Мне здаецца, яно паспяхова пераадольваецца з боку польскіх гісторыкаў, з боку польскай грамадскасці. Вось з боку рускай грамадскасці тое былое стаўленне да Рэчы Паспалітай, да Вялікага Княства Літоўскага, як толькі да польскіх, павінна быць скарэктавана. Ну час, які ўсё ж такі спрыяе аб'ектыўнаму пазнанню гісторыі, паставіць усе кропкі над "і".

**-- Але для краіны, якая фактычна яшчэ толькі спрабуе стаць на ногі, каб адчуць уласную моц, у першую чаргу, трэба больш пільна ўглядацца ў сябе!**

-- Я бы адназначна так не гаварыў. Хаця, думаю, прыярытэт беларускасці павінен быць бясспрэчным. Трэба перабіць гэта наша беларускае: "Ат, што мы..." Мы -- не "ат што", мы -- "вось што!.." Але ж мы не забіраем прыярытэтнасці і ў іншых нацыянальнасцяў на Беларусі. Тым не менш без прыярытэтнасці беларускага мы прападзём. Калі мы не дамо сёння прыярытэтнай дарогі нашай мове, беларускаму адраджэнню, будзе вельмі дрэнна. Прытым не важна, ці будуць размаўляць па-беларуску рускія ці татары: яны павінны зразумець, што гэты кавалачак зямлі, які завецца Беларусь, — іх радзіма, і на гэтай зямлі ім трэба жыць, дбаючы, верачы, ствараючы.

Наша беларускасць -- яна ў самаўзвышэнні. Яна ніколі не стане фашызмам. Нас палохалі нацыяналізмам. Але нацыяналізм набываў адмоўны знак толькі ў бальшавікоў. Нацыяналізм -- гэта нацыя, народ. Нас і сёння палохаюць, што, напрыклад, Пазьняк прымусіць усіх размаўляць па-беларуску. Ды не аб прымусе тут размова ідзе! Прымусам нічога не зробіш, на прымусе нічога не пабудуеш. Наадварот: трэба, каб беларуская мова ўвайшла ў жыццё людзей усвядомлена, з радасцю пазнання, адкрыцця. Гэта свята павінна быць, а не прымус. Зразумела, немагчыма адправіць пяцідзесяці ці шасцідзесяцігадовага чалавека ў першы клас вучыць мову. Няхай ён размаўляе так, як размаўляў усё жыццё, але няхай ён розумам, сэрцам прыме і беларускае адраджэнне, адраджэнне той зямлі, на якой ён і яго дзеці жывуць.

**-- Але ж тым не менш ужо нарадзілася ідэя перагледзець новыя падручнікі па беларускай гісторыі, у якую зноў умешваецца палітыка.**

-- Ну, гэта проста несур'ёзна -- павырываць старонкі з падручнікаў, здаць іх у макулатуру. Я лічу, што гэтыя падручнікі стварыў цвет нашай маладой інтэлігенцыі. Прытым кожны падручнік, пакуль убачыць свет, дзесятак рэцэнзій павінен атрымаць. Я ведаю, што іх канцэпцыі абмяркоўваліся і ў Літве, і ў Польшчы, і з рускімі, і з украінскімі навукоўцамі.

**-- Алег Антонавіч, але калі раней існаваў перагіб у бок "сялянскасці" беларускай гісторыі, то ці няма таго ж перагібу ўжо ў новых гісторыкаў у бок "шляхетнасці" нашай мінуўшчыны, што, дарэчы, таксама не ў малой ступені дыктуецца некаторымі палітычнымі патрабаваннямі тых ці іншых партый?**

-- Я думаю, што ў нас усё было, як у людзей, а часам і не як у людзей. Ва ўсякім выпадку мы пачыналіся не як сельская нацыя. Увогуле Русь, Кіеўская Русь пачыналіся з гарадоў. І мы пачыналіся ў Полацку, Тураве... Шведы называлі нашыя землі, землі Кіеўскай Русі -- "край гарадоў". Клас сялянства пачаў складвацца ў XY, XYI стагоддзях. У перыяд Вялікага Княства Літоўскага мы былі нават "краем магдэбургскіх гарадоў". Што ўжо можна перабольшваць!

Іншыя справа пасля XYIII стагоддзя. Горад рабіўся чыноўніцкім, русеў, культура, на жаль, выцяснялася. Але і тады беларускасць жыла не толькі пад сялянскай страхой. Яна была і пад страхой месціча, і дробнага шляхціца, і нават буйнога...

**-- Як вам здаецца, ці існуюць сёння палітычныя сілы, якія жадалі б трактаваць беларускую гісторыю як пераважна сялянскую?**

-- Думаю, не. Гэта была трактоўка ленінская. Але на той момант Ленін меў усе падставы гаварыць пра "сялянскасць" нашай нацыі.

І ўсё ж такі тая шляхта, што існавала на Беларусі, была беларускай, яна нават на польскамоўе не перайшла. Са шляхецкага асяроддзя пайшлі і першыя дзеячы нацыянальнага адраджэння: Ян Чачот, Вярыга-Дарэўскі, Багушэвіч, Дунін-Марцінкевіч...

**-- Алег Антонавіч, і апошняе. Такім чынам, гісторыя не нагадвае вам згаворлівую даму на балі, якую хто запрашае, з тым яна і танцуе?**

-- Ні ў якім разе. Гэта дама сур'ёзная, дама разумная, дама прыгожая. Яна не з кожным танцаваць пойдзе, не.

Каго мне нагадвае гісторыя? Можа, маці. Маці, якая ўсё ведае. Не тая мадонна, якую малююць, а маці ў маршчынах, пакутніца, як гераіні Быкава.

**-- Здаецца, і сапраўды на нашай беларускай гісторыі ўвесь час ляжыць нейкі знак бяды...**

-- ...Ляжыць, праўда. Але знак бяды -- гэта знак чалавечы, ён сведчыць, што мы ёсць. І можа веліч спазнання гэтай бяды ўрэшце нам і дапаможа.

**-- Але няхай бы ўжо сваім крылом і ўдача нас закранула...**

-- Будзем спадзявацца, што так і атрымаецца.

**Гутарку вяла
Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ДА СУАЙЧЫННІКАЎ НА ДРУГІ БОК ЗЯМЛІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Вельмі цікавыя маршруты па Нью-Йорку правёў з намі вялікі знаўца горада старшыня Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Антон Шукелойць. З гонарам убачылі наш бел-чырвона-белы сярод амаль 200 сцягоў незалежных краін свету каля будынка ААН. На жаль, у крамах было незлічона сувеніраў (у тым ліку сцяжкоў, бралкоў з сімваламі) розных краін, апрача беларускіх. Чаму гэта не хвалюе каля дзесятка нашых прадстаўнікоў у ААН і пасольстве? Продаж сувеніраў -- не толькі прапаганда, але і валюта дзяржаве. Каля знакамітай Уол-стрыт бачылі мемарыяльную дошку, прысвечаную чалавеку, які адкрыў у Нью-Йорку першую навучальную школу, але толькі спадар Антон і тыя людзі, якім ён гэта казаў, ведаюць, што той дзеяч быў беларусам. Безумоўна, не маглі не з'ездзіць на караблі да статуі Свабоды, чэрава якой набіта турыстамі -- яны марудна на працягу 1,5 гадзіны ўздымаюцца, адлічваючы 354 прыступкі, да самай яе галавы, каб хвіліну глянуць адтуль на небаскробы Нью-Йорка.

Цікавыя размовы пра жыццё беларусаў у Амерыцы, пра навуку і культуру адбыліся з прафесарам хіміі Нью-Йоркскага гарадскога універсітэта, кіраўніком танцавальнага ансамбля "Васілёк" Алай Орса-Рамана, прафесарам Фрэнкам Рамана, з вядомым гісторыкам, журналістам і грамадскім дзеячам Янкам Запруднікам, мастачкай Галінай Русак, прэзідэнтам Беларускага Кангрэсавага Камітэта Амерыкі Расціславам Завістовічам, Паўлінай і Яўгенам Сурвіламі, Алексам Сільвановічам і многімі іншымі.

Спадарыня Ала на наша пытанне: "Чаму ў Амерыцы так многа вельмі тоўстых людзей"? адказала проста: "У нас праблема з харчаваннем!" І праўда праблема: на кожным кроку ці рэстаран, ці кафэ, ці яшчэ якія-небудзь харчэўні, у якіх вельмі смачна і каларыйна кормяць. Асабліва папулярныя такія, у якіх так званы "шведскі стол" -- заплаціў і еш, што хочаш і колькі хочаш. Усюды прадаюцца недарагія розныя арэшкі, семкі (ужо лушчаныя), чыпсы і г.д., якія многія амерыканцы ўвесь час жуюць. Мы падумалі: "Вось нам бы такую праблему!"

Адбыліся нашы сустрэчы і выступленні з мноствам пытанняў пра жыццё на Беларусі ў фундацыі імя П.Крэчэўскага (Нью-Йорк), у Саўт-Рыверы, а затым у Кліўлендзе, Чыкага. Наведалі беларускія цэрквы (а іншы раз слухалі службу) у Нью-Брансуіку, Саўт-Рыверы, Кліўлендзе, Чыкага (уніяцкую і праваслаўную), Таронта. Пакланіліся праху суайчыннікаў на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы і Кліўлендзе -- акуратныя, дагледжаныя, з надпісамі па-беларуску.

Мне асабліва цікава было сустрэцца і пагаманіць з Антонам Адамовічам (жыве зараз у вельмі ўтульным доме для састарэлых пенсіянераў у Нью-Йорку), Інай Рытар (Кахаюўскай) -- пісьменніцай, псеўданім Аляксандра Саковіч (Кліўленд), сёстрамі Ірэнай і Людвікай Будзькамі (Чыкага), якія добра ведалі майго дзядзьку Максіма Гарэцкага.

Васіль Мельяновіч -- вядомы грамадскі дзеяч, заснавальнік кампаніі "Беларуска-Амерыканская інфармацыйная служба" для спрыяння прафесійным і эканамічным кантактам Амерыкі і Беларусі -- з вялікай прыязнасцю пазнаёміў нас як з "аднапавярховай" Амерыкай (Гановер і іншыя гарады), так і са сталіцай -- Вашынгтонам, дзе мы з прыемнасцю наведалі "сваё" беларускае пасольства. У гарадках, вёсках і на фермах -- утульныя хаты-катэджы, вакол абавязковыя чыстыя зялёныя газоны з падстрыжанай травой (маленькімі трактарамі стрыгуць амаль раз у тыдзень), каля дома 3--4 аўтамабілі для кожнага члена сям'і (яны неабходныя, бо грамадскі транспарт, апрача вялікіх гарадоў, ездзіць рэдка). Здзіўляюць гандлёвыя цэнтры з велізарнымі магазінамі (прадуктовымі, прамтаварнымі, будаўнічымі, аўтамабільнымі, канцылярскімі і іншымі), у якіх можна купіць ці заказаць усё, што патрэбна, і ў якіх няма ніякай чаргі. Часта сустракаюцца жоўтыя "школьныя аўтобусы", якія возяць у школу тых дзетак, якія жывуць больш чым за 1 мілю ад школы, ім поўны прыярытэт на дарогах. Каля дамоў -- невялікія паштовыя скрынкі, праз якія можна як атрымаць, так і пасылаць карэспандэнцыю і якія не паляць і не ломяць, як у нас. На многіх не толькі афіцыйных, але і прыватных дамах развяваецца амерыканскі сцяг, бо большасць жыхароў (і гэта гаворыцца з гонарам) -- "нацыяналісты", што тут разумеецца, як патрыёты. Выклікаюць зайздрасць адносіны да інвалідаў: усюды пра іх памятаюць, і таму ёсць розныя каляскі, спецыяльныя туалеты, сцежкі, прыступкі ў аўтобусах і г.д. Гэтыя людзі адчуваюць сябе нармальна, актыўна жывуць і нават смела ўсюды вандруюць.

Уразіў беларускі культурна-асветніцкі цэнтр "Полацак" у Кліўлендзе -- вялікі будынак на краі прыгожага зялёнага парку з сажалкай у нізіне, які нам з гонарам паказалі Янка Ханенка, Кастусь Калоша і інш. Тут мы прынялі ўдзел у службе ў царкве і ў пікніку, які амаль кожны тыдзень спраўляюць беларусы Кліўленда. Чулі зладжаны царкоўны хор пад кіраўніцтвам К.Калошы і цудоўныя песні ў выкананні многіх удзельнікаў хору "Васілёк" пад кіраўніцтвам Вольгі Лукашэвіч. З апетытам пакаштавалі смачную беларускую ежу, прыгатаваную нястомнай Евай Яраховіч. Сустрэліся з сучасным эмігрантам: баяніст-віртуоз, які бліскуча выконвае розныя рэчы ад класікі да частушак. Не можа знайсці працу па спецыяльнасці (зарабляў мыццём посуду ў рэстаране, зараз беспрацоўны), і таму ўвесь час вялікі сум у вачах, якія зноў святлеюць толькі тады, калі ён бярэ ў рукі баян. Янка Раковіч звазіў паглядзець адно з цудаў свету -- Ніягарскі вадаспад.

З Чыкага і яго мэрыяй нас пазнаёмілі Вера і Вітаўт Рамукі, якія бяруць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці: кожны год адзначаюць свята абвяшчэння незалежнасці БНР (у гэты дзень каля мэрыі Чыкага, як і ў некаторых іншых гарадах Амерыкі, уздымаецца беларускі сцяг), на Каляды робяць беларускую ёлку і г.д. Брат Веры -- Нікодэм Жызнеўскі ўзяў у нас інтэрв'ю для радыё, бо адзін раз у тыдзень вядзецца 10-хвілінная перадача на беларускай мове. З дзейнасцю Беларуска-Амерыканскай Нацыянальнай Рады і беларускай праваслаўнай царквы Св. Юрыя пазнаёмілі нас Міхась Каленік і Мікола Латушкін.

Зноў "аднапавярховую" Амерыку мы больш падрабязна ўбачылі ў Гранд-Рапідс, дзе нас гасцінна прынялі Вера і Мікола Прускі. Апошні ў сваёй хаце мае маленькую друкарню, выдаў шэраг беларускіх кніг, а зараз адзін рэгулярна выдае газету "Беларускі дайджэст", многа аддае сіл у Цэнтры гуманітарнай медычнай дапамозе, у тым ліку і Беларусі.

У Таронта (Канада) адбылася 21-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якую арганізавалі Згуртаванне беларусаў Канады і Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне пад дэвізам: "За незалежную і дэмакратычную Беларусь". Сустрэча адбылася ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры (царква Св. Кірылы Тураўскага) і гатэлі Трумпф Говард Джонсан. У першы дзень абмяркоўваліся наступныя тэмы: генацыд у Курапатах; каардынацыя намаганняў за здабыццё незалежнасці і дэмакратыі Беларусі; узаемадзеянне паміж старэйшым і малодшым пакаленнямі; справа дапамогі ахвярам чарнобыльскай бяды; нашы захады перад уладамі Канады і Злучаных Штатаў, што да іхняга спрыяння дэмакратычнаму працэсу і вольнарынавчым рэформам у Беларусі. На другі дзень адбылася літургія, якую правёў архіепіскап Мікалай, потым пленарны сход і канцэрт, а ўвечары -- сяброўская вечарына. Мерапрыемствы прайшлі пад кіраўніцтвам Міколы Ганько -- старшыні Згуртавання беларусаў Канады. Апрача нас, у сустрэчы ад Беларусі прынялі ўдзел прадстаўнікі БНФ Валянціна Трыгубовіч і народны дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі Алесь Шут, а таксама былы старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Яўген Лецка. Былі атрыманы прывітанні ад губернатара штата Агаё і ад некаторых грамадскіх арганізацый ЗША і Беларусі. На жаль, ні прадстаўнікоў урада Беларусі, ні прывітання ад іх не было. На пленарным сходзе, які вельмі добра вяла Алеся Кіпель, выступілі М.Ганько, А.Шукелойць, Я.Сажыч (старшыня Рады БНР), А.Шут, Р.Гарэцкі, Я.Запруднік, В.Кіпель. Канцэрт адбыўся сіламі жаночага хору "Васілёк" (з дапамогай Кастуся Калошы і Анатоля Лук'янчыка), салістаў Вольгі Лукашэвіч, Любы Сергіевіч і Ларысы Стэльмашэнка.

Былі прыняты тры галоўныя дакументы: рэзалюцыя, заява пра палітычнае палажэнне на Беларусі і прывітанне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку. Сход завяршыўся спяваннем беларускага нацыянальнага гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

На вячэры частавалі нас смачнымі стравамі беларускай кухні з амерыканскім ухілам, якія падрыхтавалі нашы працавітыя канадскія жанчыны-беларускі на чале з Марыяй Ганько.

Пасля сустрэчы, але ў яе рамках пад кіраўніцтвам Раісы Жук-Грышкевіч і айца Аляксандра Надсона адбылося паломніцтва да Беларускага Крыжа ў прошчы ў Мідлендзе.

З дапамогай М.Ганько мы разам з А.Шутам змаглі наведаць у Рычманд-Хіл (каля Таронта) Йоркскі цэнтральны шпіталь -- палікліліку разам з бальніцай, якая абслугоўвае Йоркскі раён. Па абсталяванню, камп'ютэрызацыі, абслугоўванню лепшую бальніцу цяжка ўявіць. Наша так званая лечкамісія не вытрымлівае ніякага параўнання і выглядае, як самая ўбогая ўстанова. Цікава, што ў шпіталі дапамагаюць у якасці нянек і іншых падсобных супрацоўнікаў даглядаць хворых добраахвотнікі, якія адзеты ў спецыяльныя ружовыя халаты. Хуткая дапамога так арганізавана ў раёне, што праз 3--5 хвілін яна прыязджае па выкліку.

Пасля вяртання ў ЗША Раіса Станкевіч (дачка вядомага літаратуразнаўцы і грамадскага дзеяча Станіслава Станкевіча) адвезла нас у мястэчка Эленвіл у Кітсцільскіх гарах, дзе мы на дачы "Родны Кут" правялі незабыўныя два дні разам з Юляй і Паўлам Андрусышынымі -- бацькамі вядомага спевака Данчыка, яго бабуляй Янінай Кахаюўскай, Элеанорай і Лёняй Нарыкамі, Антонам Шукелойцем, суседзямі-ўкраінцамі. Прыгожая мясцовасць, чыстае паветра і цудоўныя песні Данчыка па магнітафону спрыялі сяброўскай гамонцы на розныя тэмы. Давялося пабыць у гасцях у Вольгі і Масея Сяднёвых, у якіх слухалі вершаваныя і празаічныя словы Масеевы, елі смачную Масееву кашу і дыхалі салёным паветрам Атлантычнага акіяна, няспешна крочачы босымі нагамі па мяккаму пяску і пяшчотнай вадзе.

Хочацца перадаць самую шчырую сардэчную падзяку ўсім беларусам ЗША і Канады, з якімі мы бачыліся, за надзвычай цёплую сустрэчу. Дзякуючы ім, мы за акіянам адчувалі сябе спакойна і добра, як на Бацькаўшчыне. Было прыемна і радасна сустракацца з суайчыннікамі, якія так цудоўна захавалі чысціню беларускай мовы, замілаванне і любоў да Бацькаўшчыны, да беларускасці. Якія складаныя і цяжкія лёсы напаткалі большасць беларусаў! Рэаліі жыцця перавысілі ўсе самыя фантастычныя прыдумы! Мы з цікавасцю знаёміліся з вялікімі здабыткамі беларускага замежжа, з яго культураю, якія павінны зліцца ў адзінае рэчышча агульнай беларускай культуры. Мы адчулі, што большасць беларусаў, з якімі мы сустракаліся, гатовы разам з намі аддаць свае сілы дзеля ўсеагульнага адраджэння Беларусі і перш-наперш стварэння самастойнай дзяржавы. У гэтай справе нашы суайчыннікі могуць многа дапамагчы не толькі прапагандай Беларусі на ўсіх узроўнях, але і сваім уплывам на ўрады краін, дзе яны жывуць, спрыяючы правільнай іх палітыцы ў адносінах да Беларусі, дапамагаючы эканамічным накірункам дзейнасці, арганізуючы сумесныя прадпрымальныя структуры, і г.д. Тут неабходна агульнае супрацоўніцтва пасольстваў, прадстаўнікоў Беларусі ў ААН, а таксама розных дзяржаўных і грамадскіх арганізацый Бацькаўшчыны з беларускімі эмігрантамі.

Мы ўбачылі, што ў беларусаў замежжа таксама існуе многа праблем. На жаль, адсутнічае адзінства паміж сабой -- раз'ядноўвае прыналежнасць да розных рэлігійных напрамкаў, да прыхільнікаў БНР ці БЦР, да крывічоў ці замежнікаў і г.д. Як і на Беларусі, няма адзінства ў дэмакратычных рухах і партыях, якія так і не змаглі аб'яднацца на выбарах Прэзідэнта. Асабістыя амбіцыі перамаглі і нанеслі вялікія страты ў здзяйсненні беларускай нацыянальнай ідэі. Няўжо так здарыцца і пры новых выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі? У ЗБС "Бацькаўшчына" Я.Лецка таксама вядзе раскольную працу: паціхеньку ад Рады стараецца стварыць альтэрнатыўную "Бацькаўшчыне" структуру -- Згуртаванне беларусаў Навагрудчыны, куды заклікае і ўсіх беларусаў свету.

Узнікаюць важныя пытанні аднаўлення беларускага замежжа ў Паўночнай Амерыцы -- патрэбны маладыя сілы. Неабходна падрыхтаваць і свяшчэннаслужыцеляў для амерыканскіх цэркваў. Не менш важна захаваць архівы. Найважнейшыя матэрыялы, відаць, трэба перадаць на Бацькаўшчыну, але нядрэнна мець і апорныя архіўныя пункты -- магчыма, у Гайнаўцы для Еўропы і ў Кліўлендзе для Амерыкі. Абмяркоўвалася думка пра стварэнне Саюза беларускіх медыкаў. Вельмі карысны абмен студэнтамі, навукоўцамі, камерсантамі, арганізацыя ўзаемнага турызму, летнікаў, выстаў, канцэртаў, сустрэч дзеячаў культуры і навукі і г.д. Эмігранты могуць дапамагчы ў розных міжнародных мерапрыемствах, у тым ліку і спартыўных (напрыклад, у правядзенні Алімпійскіх гульняў, якія ў 1996 годзе адбудуцца ў ЗША) і г.д. Неабходна прыцягваць беларускіх эмігрантаў да напісання артыкулаў для энцыклапедый, наладзіць абмен друкаванай літаратурай, арганізаваць магчымасць падпіскі на розныя выданні Беларусі і г.д.

Каб дайсці нам, усім беларусам, -- і на Бацькаўшчыне, і ў замежжы -- да сапраўднай Беларусі, патрэбна аб'яднанне сілаў на шляху нацыянальнага адраджэння Беларусі.

Вярталіся мы на Радзіму поўныя ўражанняў, карысных назіранняў, прапаноў, з больш яснымі перспектывамі ў працы ЗБС "Бацькаўшчына". У вялікім кантрасце з аэрапортамі ЗША, Канады, Ірландыі, якія поўныя людзей, розных магазінаў, рэстаранаў, кафэ, Мінскі аэрапорт сустрэў цішынёй і пустэчай мармуровых залаў... Дарэчы, страшна дрэнны сэрвіс, антысанітарны стан нашых туалетаў проста адпужваюць ад паездак на Беларусь замежных турыстаў, у тым ліку нават нашых суайчыннікаў. Так мы губляем турызм, а з ім багацце і прыцягальнасць краіны. Аб гэтым таксама былі размовы з многімі беларусамі замежжа. Разам з імі, прыляцеўшы на Беларусь, мы падумалі: "О, Беларусь! Калі ж ты станеш па-сапраўднаму культурнай, багатай, цывілізаванай дзяржавай? Ці дачакаемся мы таго часу, для набліжэння якога мы гатовы зрабіць усё, што можам, не шкадуючы сіл і намаганняў?"

**Радзім ГАРЭЦКІ,**
**прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына".**

## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

**Рэдактару газеты "Голас Радзімы".**

Паважаны Вацлаў Генрыхавіч! Цэнтр культуры імя Максіма Горкага ў Мантэвідэо (Рэспубліка Уругвай) аб'ядноўвае беларусаў, рускіх і ўкраінцаў.

Ад імя дырэкцыі нашай арганізацыі мы вельмі ўдзячныя за ўвагу да нас. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, якія перажывае наша радзіма, на працягу ўсіх гадоў, што існуе наша арганізацыя, мы атрымліваем вашу газету "Голас Радзімы". Раней ішлі і іншыя выданні: часопісы, кнігі, нават фільмы і музычныя запісы на нашых родных мовах. Яны і зараз захоўваюцца ў нашай бібліятэцы. На сённяшні дзень "Голас Радзімы" -- адзіная газета, якую мы атрымліваем з былога СССР. Мы ёй вельмі рады, а вам выказваем за яе шчырую падзяку. Газету з задавальненнем чытаюць не толькі беларусы, але і рускія, і ўкраінцы, якія сочаць за падзеямі ў іх родных мясцінах.

Мы выказваем сваё пажаданне, каб усе народы жылі ў згодзе і каб паміж славянамі не было таго падзелу, які вядзе да пагаршэння адносін.

**Па даручэнню Цэнтра культуры**
**Д.ХАЛОШЧЫНА, В.ТАШЭНДЭ, В.КАЧУБЕЙ**
**(усяго 11 подпісаў).**

Уругвай.

# "МАЛЕВІЧ. "УНОВИС". СУЧАСНАСЦЬ"

Пад такой назвай з 20 жніўня па 15 верасня ў Віцебску праходзіў Першы міжнародны пленэр, прысвечаны памяці Казіміра Малевіча. Пасля дзіцячага Рэпінскага і Першага Шагалаўскага ён стаўся трэцім па ліку пленэрам, наладжаным у Віцебску на працягу аднаго года. Інтэнсіўнасць мастацкага жыцця горада апошнім часам здзіўляе многіх. Аднак прычыну гэтай з'явы можна акрэсліць дастаткова проста: у Віцебску зараз актыўна ідзе працэс засваення ўласнай культурнай спадчыны.

Казімір Малевіч, заснавальнік супрэматызму, які разбурыў рамкі традыцыйнага разумення жывапісу, мастак, які вялікі ўплыў аказаў на ўсё мастацтва XX стагоддзя (асабліва на архітэктуру і дызайн) і стварыў пэўны стыль эпохі, воляй лёсу з восені 1919 да пачатку 1922 года жыў у Віцебску. Па запрашэнні М.Шагала ён выкладаў у Вольных мастацкіх майстэрнях і стаў заснавальнікам творчага аб'яднання "УНОВИС" ("Утвердители нового искусства"), з дапамогай якога распаўсюдзіў прынцыпы супрэматызму на новыя сферы культуры. На аснове канцэпцый супрэматызму сябрамі "УНОВИСа" былі распрацаваны архітэктурныя кампазіцыі ("архітэктоны", "проуны"), новыя формы утылітарных рэчаў, мэблі, паліграфічнай прадукцыі, адзення, арнаменту, эскізы манументальных размалёвак горада, шыльдаў і г.д. У Віцебску Малевічам былі выдадзены і тэарэтычныя працы: брашуры "Супрэматызм. 34 малюнкі" (1920 год) і "Бог не скінуты. Мастацтва, Царква, Фабрыка" (1922 год), а таксама падрыхтаваны рукапісы яшчэ двух філасофскіх трактатаў.

Мастацкія і філасофскія пошукі Малевіча -- тэарэтыка беспрадметнага мастацтва, аднаго з самых паслядоўных лідэраў расійскага авангарда, які імкнуўся вызваліць мастацтва ад рэчаіснасці і падышоў да вырашэння праблем прасторы, -- былі цалкам адрынуты чыннікамі ідэалагічнай палітыкі таталітарнага грамадства, абвешчаны праявай агульнага заняпаду буржуазнай культуры пачатку XX стагоддзя.

Цікавасць да творчых пошукаў Малевіча мастакамі былога СССР магла быць адкрыта выказана толькі ў канцы 1980-х гадоў. У гэты час у Віцебску мясцовымі мастакамі была створана суполка пад назваю "Квадрат", якая дэкларавала працяг у мастацтве традыцый Казіміра Малевіча. Менавіта яе сябры і склалі асноўную частку ўдзельнікаў Першага пленэру, прысвечанага памяці заснавальніка супрэматызму. Лік яго ўдзельнікаў быў абмежаваны 13 асобамі, прадстаўніцтва -- Віцебскам і Масквой. Галоўным спонсарам пленэру выступіў Фонд Сораса--Беларусь. Уся імпрэза мела добра прадуманую канцэпцыю, згодна з якой мастакі павінны былі выканаць падчас пленэру працы, што найбольш адпавядалі б мастацкай канцэпцыі самога Малевіча. Варта адразу адзначыць, што класічны авангард за апошнія 70--80 гадоў перацярпеў сутнасныя метамарфозы, абумоўленыя магутным уплывам на яго культуры постмадэрнізму, таму чакаць літаральнага наследавання Малевічу не выпадала.



Выніковая выстава пленэру, якая адкрылася 15 верасня ў Віцебску, аказалася шматпланавай, бо выявіла як цікавыя канцэптуальныя падыходы да вырашэння праблем сучаснага мастацтва, так і вельмі павярхоўныя, а часам і проста спекулятыўныя спробы выкарыстання выяўленчых сродкаў супрэматызму без глыбіннага разумення яго як з'явы. Аўтарытэтным журы, у склад якога ўваходзілі мастацтвазнаўцы з Мастацкага музея Беларусі, Траццякоўскай галерэі, Рускага музея і фонду Малевіча, былі вызначаны пераможцы. Імі сталі мастакі Васіль Васільеў (Віцебск, Гран-пры), Аляксандр Малей (Віцебск, 1 прэмія) і Леў Сцяпанаў (Масква, 2 прэмія). Складана казаць аб творах мастацтва, выявы якіх не ўяўляецца магчымым прадставіць увазе шаноўнага чытача (кожны з мастакоў выставіў каля дзесятка прац). Аднак нават сама фармулёўка-абгрунтаванне рашэння журы аб аднадушным прысуджэнні В.Васільеву Гран-пры пленэру -- "За радыкальнае засваенне новых мастацкіх сістэм" -- ужо ёсць прызнанне ўзроўню і аўтарытэту сучаснага беларускага авангарда.

Па адной працы ўдзельнікі пленэру перадалі ў фонд Цэнтра сучаснага мастацтва ў Віцебску, ідэя якога паступова пачынае набываць акрэсленыя формы. Сваімі разважаннямі наконт праблем сучаснага авангарда, філасофскай і педагагічнай сістэм Малевіча, стану спраў у беларускім мастацтве абмяняліся мастацтвазнаўцы -- госці пленэру падчас "круглага стала" на тэму "Малевіч. Класічны авангард. Віцебск".

Першы пленэр Малевіча ў Віцебску прынёс плён не толькі яго непасрэдным удзельнікам, але і гораду. Пасля ўдзелу ў віцебскай імпрэзе фонд Малевіча, штаб-кватэра якога размяшчаецца ў Маскве, выказаў жаданне адкрыць сваю філію ў Віцебску. Фонд зараз актыўна займаецца выданнем тэарэтычнай спадчыны мастака (рыхтуецца да друку збор твораў у 5 тамах), стварэннем "Кабінета Малевіча", у якім даследчыкі ягонай творчасці маглі б знайсці копіі рукапісаў, што захоўваюцца зараз далёка за мяжой, папулярызацыяй творчасці мастакоў-авангардыстаў свету, наладжваннем выстаў сучаснага мастацтва і г.д.

Адной з заключных акцый пленэру стала закладка ў Віцебску першага ў свеце помніка Казіміру Малевічу. Калі паўстане сам помнік, сёння, у час эканамічнай разрухі, сказаць цяжка. Аднак акцыя гэта мела хутчэй сімвалічны сэнс -- надзеі на прадаўжэнне традыцыі, належнае асэнсаванне спадчыны мінулага, якое ў стане прынесці гораду вялікую будучыню.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

СІМПОЗІУМ доўжыўся два дні. На ім было прачытана некалькі дзесяткаў дакладаў, якія тычыліся гісторыі Нясвіжа і славутага роду Радзівілаў, архітэктуры і мастацтва горада.

Арганізавалі сімпозіум Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, міжнародны фонд "Нясвіж", Нацыянальны гісторыка-культурны запаведнік "Нясвіж", Беларускі інстытут праблем культуры, Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі і Міжнародная асацыяцыя беларусістаў.

# ГІСТАРЫЧНАЯ СПАДЧЫНА ПАВІННА АБ'ЯДНОЎВАЦЬ НАРОДЫ

Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прафесар Адам Мальдзіс згадзіўся падзяліцца з нашымі чытачамі сваімі думкамі наконт сімпозіума ў Нясвіжы і раскажаць пра некаторыя іншыя справы асацыяцыі беларусістаў.

**-- Адам Восіпавіч, сімпозіум у Нясвіжы быў названы міжнародным. Ці спраўдзіў ён сваю назву?**

-- Думаю, што так. Сапраўднай сенсацыяй, на мой погляд, з'явіўся прыезд з Лондана Антонія Радзівіла з жонкай, якія ўзялі ўдзел у сімпозіуме. Антоній Радзівіл ужо другі раз наведвае горад сваіх продкаў. Дарэчы, менавіта ён з'яўляецца прамым спадчыннікам замка Радзівілаў у Нясвіжы. Аднак Антоній Радзівіл не мае ніякіх прэтэнзій на маёмасць, бо ведае, што законы ў Англіі -- адны, у Беларусі -- іншыя.

У Нясвіж прыязджалі з Вялікабрытаніі таксама мастацтвазнаўца князь Мсціслаўскі і Заслаўскі доктар Анджэй Цеханавецкі і прафесар Джым Дынглі.

Усе гэтыя людзі зацікаўлены ў адраджэнні Нясвіжа і Беларусі. На маю думку, хоць сённяшнія Радзівілы не вельмі заможныя людзі, аднак іх значэнне ў тым, што яны належаць да славутага, вядомага і шаноўнага ў Еўропе роду Радзівілаў. Гэта азначае, што імя Радзівілаў можа прыцягнуць увагу да Нясвіжа і з цягам часу паспрыяць яго адраджэнню.

Пра вяртанне былой славы Нясвіжу наогул немагчыма казаць у межах адной толькі Беларусі. Нясвіжскі замак, ягоныя іншыя помнікі архітэктуры, паркі -- гэта яднанне культурных традыцый розных народаў. Замак Радзівілаў будаваў італьянскі архітэктар Ян Марыя Бернардоні, палац знаходзіўся на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, Польшчы. У Нясвіжскі замак прыязджалі, жылі ў ім самыя розныя людзі. У лепшыя моманты сваёй гісторыі Нясвіж адыгрываў аб'ядноўваючую ролю ў Еўропе. І яшчэ вельмі сур'ёзны аспект праблемы: скарбы Нясвіжа расцягнуты па ўсім свеце. Частка знаходзіцца ў Польшчы, частка ў Расіі, на Украіне і ў Літве. Таму лёс Нясвіжа не можа тычыцца адной толькі Беларусі. Некаторыя праблемы неабходна вырашаць на міждзяржаўным узроўні.

**-- На сімпозіуме абмяркоўваўся праект стварэння канцэпцыі Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка ў Нясвіжы. Што вам падалося больш значным ў канцэпцыі?**

-- Згодна з ёю, запаведнік будзе дзяржаўнай структурай музейнага тыпу. Мэтай яго дзейнасці з'явіцца адраджэнне і рэстаўрацыя помнікаў культуры і аздабленне наваколля, а значыць, і стварэнне такога асяроддзя ў горадзе, што будзе спрыяць развіццю Нясвіжа. У перспектыве там размесцяцца музеі, тэатр, бібліятэкі, архівы. Палацава-паркавы ансамбль Нясвіжа мяркуецца выкарыстоўваць як урадавую рэзідэнцыю для прыёмаў высокіх гасцей. На маю думку, апошняе вельмі важна, бо вядомасць Нясвіжа сярод кіраўнікоў ці прадстаўнікоў дзяржаў надасць вядомасць гораду ў свеце. Людзі павінны ведаць, што Беларусь мае багатую гісторыю. З цягам часу Нясвіж будзе прымаць шмат турыстаў, што паспрыяе развіццю горада, бо турызм вельмі прыбытковы бізнес.

**-- Але пакуль у Нясвіжскім палацы -- санаторый...**

-- Так. Аднак калі ён пераедзе ў новы будынак, то яго прысутнасць у Нясвіжы будзе толькі спрыяць росту колькасці наведвальнікаў музеяў палаца. І хто ведае, можа калісьці Нясвіж стане таксама і міжнародным курортам... Канешне, гэта патрабуе шмат грошай і часу. Усё сказанае вышэй -- доказ таго, што ўрад і прэзідэнт павінны быць зацікаўлены ў адраджэнні Нясвіжа, бо ягоны прэстыж -- гэта прэстыж Беларусі.

**-- Калі казаць пра набыццё Беларуссю вядомасці ў свеце, то Міжнародная асацыяцыя беларусістаў робіць для гэтага вельмі шмат...**

-- Асацыяцыя беларусістаў яднае людзей з розных краін, якія пераважна не з'яўляюцца беларусамі, але зацікаўлены ў развіцці яе навукі, культуры, літаратуры. У адных краінах ёсць арганізацыі беларусістаў, у іншых жывуць асобныя людзі, якія працуюць у гэтай галіне. Сярод беларусістаў у Вялікабрытаніі самыя вядомыя -- Джым Дынглі, Анджэй Цеханавецкі. Цікавяцца Беларуссю і ў такіх краінах, як Індыя, Японія. У першай з іх выдадзены зборнікі беларускай паэзіі ў перакладзе на мовы хіндзі і канада.

Мы ўдзельнічалі ў апошняй міжнароднай канферэнцыі "Рым У", прысвечанай спадчыне Вялікага Княства Літоўскага, што прайшла ў Тракаі (Літва). Матэрыялы папярэдняй канферэнцыі "Рым IV" выдадзены сёлета ў зборніку "Беларусіка-III". У Літве рыхтуюцца да друку і матэрыялы канферэнцыі "Рым V".

**-- Чым гэтая канферэнцыя была адметная?**

-- Мяне засмуціў пагляд літоўскіх навукоўцаў на некаторыя пытанні агульнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Вядома, што ВКЛ было полінацыянальнай дзяржавай, у якой жылі літоўцы, беларусы і ўкраінцы, яўрэі, татары. На жаль, літоўцы часам прысвойваюць сабе культурныя набыткі, якія належаць усім краінам, што ўваходзілі ў ВКЛ. Я ўпэўнены, што так нельга падыходзіць да агульнай гістарычнай спадчыны, бо стаўленне да яе павінна аб'ядноўваць народы.

**Алена СПАСЮК.**

# УЗНЯЎСЯ ПТАХАМ СЦЯГ...

Гэтага дня сябры культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" беларусаў у Даўгаўпілсе чакалі даўно. І не толькі чакалі, а і прыкладалі намаганні, каб наблізіць гэтае свята. Спачатку на Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа, а потым і на Першым з'ездзе беларусаў свету мы падымалі пытанне аб адкрыцці ў Даўгаўпілсе Беларускага консуляту. І Бог нас пачуў, таму, пэўна, і ўлады праявілі чуласць. І вось гэтай вясною мы сустракалі хлебам-соллю консула Рэспублікі Беларусь Анатоля Жалтоўскага, які прыбыў у Даўгаўпілс на сталую працу. На працягу пяці месяцаў Генеральны консулят Рэспублікі Беларусь размяшчаўся ў адным з кабінетаў гарадской управы. За гэты час быў прыгледжаны асобны двухпавярховы будынак і праведзена каласальная праца па яго рэканструкцыі і капітальным рамонце. Асноўную работу выконвала будаўнічая брыгада. Аднак і нам, уздымаўцам, знайшлося дзе прыкласці рукі, асабліва напрыканцы, каб памяшканні і двор з яблыневым садам набылі належны выгляд. І вось 16-га верасня над Генеральным консулятам Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе вялікім птахам узняўся бел-чырвона-белы сцяг, асяняючы ўсю мясцовую беларускую дыяспару...

Потым у камінная зале былі падняты бакалы з шампанскім і сказаны добрыя, прачулыя словы консулам А.Жалткоўскім. Прысутных таксама віталі пасол Рэспублікі Беларусь у Латвіі Валянцін Вялічка, намеснік міністра замежных спраў Беларусі Міхаіл Хвастоў, мэр Даўгаўпілса Аляксей Відаўскі, які падараваў консуляту карціну пад назвай "Настальгія". І аўтар гэтых радкоў меў гонар сказаць некалькі слоў ад імя тутэйшых суайчыннікаў і прачытаць толькі што складзены верш:

**Як доўга я не дабяруся**
**Наведаць маці-Беларусь,**
**Зайдуся ў гэты двор, у сад,**
**У Беларускі консулят...**
**Тут на сабе бліжэй адчую**
**Айчыны мілае пагляд...**

А пасля перад сяброўскай вячэрай госці былі запрошаны ў Дом культуры хімікаў на канцэрт, дзе на працягу гадзіны радаваў усіх сваім талентам, чысцінёю і цеплынёю беларускіх народных песень і музыкі гурт дзяржтэлерадыё Беларусі "Бяседа". Сапраўды тут не маўчалі сэрцы ўдзячных гледачоў, а вялі шчырую размову з сэрцамі артыстаў. І з сэрцам Бацькаўшчыны -- ва ўспамінах і мроях...

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**



**У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі сёлетні сезон адкрываецца прэм'ерай мюзікла "Шклянка вады" па п'есе Э. Скрыба, лібрэта -- Б. Рацара і В. Канстанцінава. Гэты маляўнічы, вясёлы спектакль паставіў Б. Утораў, аформіў народны мастак Беларусі Б. Герлаван. Ролі галоўных герояў вядомай п'есы выконваюць народная артыстка Беларусі Н. Гайда і заслужаны артыст Украіны А. Ранцанц.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. Абігайль — Святлана РАМАНОЎСКАЯ, лорд Болінгброк — Арнольд РАНЦАНЦ.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

## БЕЛАРУСКІ ДРУК У АМЕРЫЦЫ

# ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ "ВЕДЫ"

І не Польшча, а Беларусь-Літва была галоўным аб'ектам маскоўска-расійскай экспансіі на захадзе. На плечы нашых продкаў лёг асноўны цяжар бясконцых войнаў з Масkoўшчынай у XY--XYII стагоддзях. Тут рэдактар "Веды", гісторык і лінгвіст, апярэдзіў не толькі дарэвалюцыйную, але "нашаніўскую" гістарыяграфію, роўным чынам і беларускую савецкую навуку 20-х гадоў, хоць яна тады яшчэ не поўнасцю падпарадкоўвалася ідэалагічнаму дыктату Масквы.

Перш чым публікаваць вынікі сваіх даследаванняў асобнымі нарысамі і манаграфіямі Ян Станкевіч апрабоўваў іх на папулярным узроўні ў часопісе "Веда". Там друкавалася ягоная праца "Этнаграфічная тэрыторыя Крывіч-Беларусі" з адпаведнай этнаграфічнай картай. Пазней аўтар пашырыў яе і выдаў асобнай кнігай пад назваю "Этнаграфічныя й гістарычныя тэрыторыі й граніцы Беларусі" (Нью-Йорк, 1953). Свой нарыс "Літоўская плынь (традыцыя гаспадарствавасьці) у нацыянальным адраджэнні беларускага народу" ("Веда", 1952, сакавік) Брачыслаў Скарыніч (адзін з псеўданімаў Я.Станкевіча) пачаў з такога тэзіса: "Беларуская гасударственнасць (дзяржаўнасць. -- **У.К.**) ведамая не пазней, як з 9 стагоддзя па Хрысту". Спачатку, пісаў ён далей, гэта былі добра вядомыя ў гісторыі Полацкае, Смаленскае, Северскае, Пскоўскае ды іншыя княствы, а з 13 стагоддзя -- "адно задзіночаньне гаспадарства нашага люду, ведамае й слаўнае на ўвесь сьвет пад назваю Вялікае Княства Літоўскае, або Літва".

Гісторыю беларускай літаратуры, мастацтва, культуры ў цэлым Ян Станкевіч выкладаў на аснове даследаванняў Я.Карскага, М.Гарэцкага, нашаніўскай і заходнебеларускай культуралагічнай традыцыі. Але і тут зрабіў свае карэктывы, асабліва што тычыцца лёсу беларускай мовы. Замена нашае мовы польскаю ў 1696 годзе, на яго думку, была вынікам "культурнага, галоўна, моўнага апалячаньня вялікіх беларускіх паноў, магнатаў, але ані не сведчыла пра падобнае апалячаньне паноў малых і шляхты засьцянковай, духавенства й мяшчанства, не кажучы ўжо пра сялянства, -- усе гэтыя клясы захавалі й далей беларускую мову". Наша мова перастала быць канцылярскай, але надалей развівалася як мова літаратуры і штодзённага побыту. У геапалітычным плане Польшча ніколі не дасягала памераў "ад мора і да мора", у той час як Беларусь-Літва ад паловы XIY да канца XY стагоддзя "працягвалася ад Балтыцкага да Чорнага мора".

У асвятленні гісторыі рэлігіі і царквы Ян Станкевіч ішоў следам за сваім папярэднікам з роду Станкевічаў, беларускім культурным дзеячам і вучоным ксяндзом Адамам Станкевічам, аўтарам кнігі "Хрысьціянства і беларускі народ. Спроба сінтэзы" (Вільня, 1940). Як ужо адзначалася, гэта была канцэпцыя, паводле якой праваслаўе і каталіцызм, а тым больш уніяцтва, здолелі адаптавацца да беларускага культурнага кантэксту і ва ўсякім разе амаль да канца XYIII стагоддзя спраўна выконвалі свае духоўныя, маральныя і нацыянальна-культурныя абавязкі перад народам. Рэлігійныя канфлікты паміж канфесіямі і фактычная адчужанасць каталіцызму і праваслаўя ад беларусаў і беларускай культурнай традыцыі ўзмацніліся пасля падзелу Рэчы Паспалітай, калі пачалася зацятая барацьба расійскага і польскага бакоў за беларускую душу. Ліквідаваўшы уніяцкую царкву ў 1839 годзе, расійскі ўрад пазбавіў беларусаў свае царквы, ва ўсякім выпадку, у яе творча-культурнай функцыі. У артыкуле "Трагедыя зь несьвядомасьці" (падпісаны псеўданімам Др.П.Янучок) Ян Станкевіч паказаў, што ў XIX--XX стагоддзях падпарадкаваная Маскве праваслаўная царква стала магутным асяродкам русіфікацыі беларусаў, а каталіцкі касцёл, нацыяналізаваны Польшчаю, стаўся ў Беларусі "польскаю вераю".

Усведамляючы ўсю горыч беларускай нацыянальнай трагедыі XX стагоддзя, рэдактар часопіса "Веда" пераконваў сваіх чытачоў, што дэнацыяналізацыя Беларусі не вечная, бо на шляху гэтага народазабойства непарушна стаіць узгадаваная стагоддзямі беларуская нацыянальная самабытнасць.

У артыкуле "Поды апрычносьці беларускага народу" ("Веда", 1952, красавік, пад псеўданімам Д. Горадзенскі) ён абгрунтаваў тры тэзісы гэтай выратавальнай цытадэлі беларусаў: 1. У святле новых лінгвістычных фактаў "не можа быць сумлеву пра тое, што праславянская мова беспасрэдне падзялілася на цяперашнія мовы славянскія". 2. У аснове этнагенезу беларусаў -- славяна-балцкі сінтэз, у той час як да этнагенезу палякаў мелі адносіны заходнія славяне і, магчыма, германскія плямёны, а на фармаванне расійскага антрапалагічнага, псіхалагічнага і культурнага тыпу моцна паўплывалі фінскія і цюркскія плямёны. 3. Урэшце, -- геапсіхалагічны фактар. Беларусь -- край лясоў, рэк, азёраў і балотаў, а беларус -- спрадвечны рольнік-араты. Лес і стэп -- варожыя паміж сабою, несумяшчальныя стыхіі. Адпаведна ёсць "лесавыя" і "стэпавыя" народы, аселыя і вандроўнікі. Магчыма, на думку Станкевіча, з-за гэтай несумяшчальнасці нарманы, а пазней татары, заваяваўшы Украіну і цэнтральную, "вандроўную" Расію, не мелі сілы перамагчы Беларусь-Літву.

Доктар навук і прафесар Ян Станкевіч, як кожны сапраўдны вучоны, хацеў стварыць сваю школу беларускай лінгвістыкі і гістарыяграфіі. І меў на гэта права. У красавіку 1952 года па яго ініцыятыве на базе Крывіцкага Навуковага Таварыства быў заснаваны Інстытут Найноўшай Гісторыі Беларусі. У аддзеле хронікі часопіс "Веда" паведамляў пра дзейнасць гэтай грамадскай навуковай арганізацыі. Аднак, як мне ўяўляецца, Крывіцкае таварыства, інстытут, часопіс, акцыянерная друкарня фактычна трымаліся на адным Януку Станкевічу. Не хапала ні сродкаў, ні шырокай падтрымкі інтэлектуальна-творчымі сіламі. Тым больш, што крыху раней (у снежні 1951 года) беларуская навуковая і літаратурная грамадскасць ЗША стварыла другую навукова-культурную арганізацыю -- Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва. Да новага інстытута далучыліся вядомыя навукоўцы Антон Адамовіч і Вітаўт Тумаш, пісьменнікі Н.Арсеннева, А.Салавей, М.Кавыль і інш.

Ян Станкевіч адстойваў, кажучы ягоным тэрмінам, сваю "апрычносьць", апублікаваў у часопісе абвестку: "З тае прычыны, што некаторыя абмыльна ўжываюць Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва за арганізацыю Крывіцкага Навуковага Таварыства Пр. Скарыны, заяўляем, што пры нашым Таварыстве арганізаваны Інстытут Найноўшае Гісторыі Беларусі, а зь Беларускім Інстытутам Навукі й Майстацтва Крывіцкае Навуковае Таварыства Пр. Скарыны нічога супольнага ня мае" ("Веда", 1952, жнівень). Але канкурэнт Крывіцкага таварыства спакваля назапашваў сілы, пачаў выпускаць (з 1952 года) свой часопіс-квартальнік "Запісы" (пазней навукова-літаратурны гадавік). Ян Станкевіч мог разлічваць толькі на свае творчыя магчымасці. У "Ведзе" друкаваліся шматлікія ягоныя матэрыялы да будучага "Слоўніка", даследаванне "Мова рукапісу "Аль-Кітаб" Крывіцкага музея Івана Луцкевіча ў Вільні", нарысы па гісторыі Беларусі. З літаратурных твораў -- некалькі вершаў Н.Арсеннева, М.Сяднёва, апавяданні Ю.Юхнаўца, раман У.Сядуры "Вялікія дарогі" (1952 год). А.Адамовіч працягваў супрацоўнічаць з Крывіцкім таварыствам, выступаў на ягоных сходках з цікавымі рэфератамі. Дарма, як гаварылася ў адным допісу, "на гэтыя "Крывічы" накінулася цэлае "зарубежжа", нават паслядоўныя "незалежнікі" ў нечым не пагаджаліся з Янам Станкевічам ("Веда", 1951, люты-сакавік. С. 56-57).

**Уладзімір КОНАН.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 38—40.**

## СЛОВА СЯБРАМ МАБ

# ХАЙ НАША ДАРОГА МОСЦІЦЦА ТОЛЬКІ КВЕТКАМІ

### ПАЭЗІЯ Адама МІЦКЕВІЧА І Юльюша СЛАВАЦКАГА Ў ПЕРАКЛАДАХ Максіма ТАНКА

Творы Адама Міцкевіча і Юльюша Славацкага, вялікіх польскіх паэтаў, знаходзілі ў Беларусі заўсёды паважанне і цікавасць. Асабліва паэзія Міцкевіча была і ёсць шырока вядомай на беларускай зямлі. На беларускую мову ў розныя часы перакладалі вершы Адама Міцкевіча Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Аляксандр Вярыга-Дарэўскі, Янка Купала, Якуб Колас, Браніслаў Тарашкевіч, Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў, Валянцін Таўлай, Піліп Пестрак, Сяргей Дзяргай, Юрка Гаўрук, Мікола Аўрамчык, Максім Танк, Анатоль Вялюгін і іншыя.

Адным з лепшых перакладчыкаў твораў Міцкевіча з'яўляецца Максім Танк. Беларускі паэт скончыў польскую сямігодку, у трыццатых гадах жыў у Вільні, дзе добра пазнаў польскую мову і пазнаёміўся з польскай рамантычнай паэзіяй. Анатоль Варабей у кнізе "Максім Танк і польская літаратура" даказвае, што на творчасць М.Танка значны ўплыў зрабіла польская літаратура. У 1922--1926 гадах ён вучыўся ў Шкленікаўскай і Сваткаўскай польскіх пачатковых школах, за час вучобы ў якіх "прачытаў амаль усе кнігі ў школьнай бібліятэцы: Міцкевіча, Славацкага, Сянкевіча, Крашэўскага, Ажэшкі, Канапніцкай".

Ведаючы добра польскую мову, Максім Танк, аднак, доўга не рашаўся перакладаць паэзію Міцкевіча. Першыя пераклады М.Танка з А.Міцкевіча з'явіліся ў 1940 годзе, калі беларускаму паэту было ўжо 28 год. Якраз адзначалася 85-я гадавіна з дня смерці польскага паэта. Максім Танк пераклаў санет "Акерманскія стэпы", урывак "Не дбаю, якое праклящце" з трэцяй часткі трагедыі "Дзяды" і надрукаваў іх у часопісе "Полымя рэвалюцыі". Апрача таго пераклаў верш Міцкевіча "Бура", які з'явіўся ў газеце "Вольная праца". Пасля, у час вайны, нічога новага не з'явілася. Ды й не да перакладаў было тады. Паэт спачатку эвакуіраваўся ў Саратаў, потым працаваў у рэдакцыі франтавой газеты "За Савецкую Беларусь", знаходзіўся на Бранскім фронце, пасля трапіў у Маскву, дзе працаваў у рэдакцыі газеты "Раздавім фашысцкую гадзіну". Толькі калі закончылася вайна, Танк зноў звярнуўся да паэзіі Міцкевіча. У снежні 1945 года ён надрукаваў у газеце "Літаратура і мастацтва" ўрывак з чацвёртага раздзела "Пана Тадэвуша" пад назвай "Звярыны лог".

На 150-ю гадавіну з дня нараджэння Адама Міцкевіча Танк пераклаў і надрукаваў наступныя творы польскага паэта: з "Крымскіх санетаў" -- "Гара Кікінаіс" у часопісе "Беларусь" і "Выгляд гор са стэпаў Казлова", з эпілога да "Пана Тадэвуша", "Хор стральцоў" з трагедыі "Дзяды" -- у часопісе "Полымя". У 1953 годзе перакладчык надрукаваў лірычны верш "Да М..." ("Прэч з маіх воч!..").

У 1955 годзе на Беларусі адзначалі 100-ю гадавіну з дня смерці Міцкевіча. Тады ў Мінску выдалі "Выбраныя творы" паэта. У гэтую кніжку ўвайшлі новыя пераклады Максіма Танка: "Лілеі", "Фарыс" і "Паліліся мае слёзы..." І апрача таго ўжо раней перакладзеныя творы: "Да М...", "Хор стральцоў", "Акерманскія стэпы" і верш "Бура".

Акрамя таго, пераклады Танка паэзіі Міцкевіча ўвайшлі ў 4-ты том "Зборніка твораў" беларускага паэта і ў зборнік "Зямля навагрудская", выдадзены Адамам Мальдзісам у 1969 годзе ў Мінску.

Трэба падкрэсліць, што Максім Танк пераклаў самыя прыкметныя і характэрныя творы Міцкевіча, якія былі напісаны ім у розныя перыяды творчасці і адрозніваюцца паміж сабой як ідэйна-вобразным сэнсам, так і рытміка-інтанацыйным гучаннем.

Асабліва цудоўна перакладзены "Крымскія санеты", якія займаюць выключнае месца не толькі ў польскай, але і ў сусветнай літаратуры. Максім Танк выбраў санет "Акерманскія стэпы", у якім польскі паэт з незвычайнай глыбінёй і сілай перадаў трывогі паэта-выгнанніка на фоне экзатычнай прыроды. Санет гучыць на беларускай мове задуменна і прыгожа:

**Як ціха! Спынімся! Я**
**журавоў лёт чую,**
**Якіх бы нават сокал**
**быстры не ўгледзеў,**
**І як матыль калыша**
**кветку палявую,**
**Як з шорахам вуж**
**прапаўзае недзе.**
**З гэткай цішыні так чутка**
**усё лаўлю я,**
**Што чуў бы гук з Літвы. --**
**Ніхто не кліча, едзем!**

Анатоль Варабей дакладна праанализаваў пераклады "Крымскіх санетаў" і даў такую вось ацэнку: "Калі параўнаць "Крымскія санеты" з папярэднімі "Баладамі і рамансамі", то можна заўважыць, што ў "Крымскіх санетах" мастацкія вобразы становяцца больш канкрэтнымі і рэальнымі. Гэтыя змяненні ў стылі паэта захаваны і ў перакладах М.Танка". З гэтым вывадам Варабея трэба згадзіцца.

Балады Міцкевіча Максім Танк зразумеў добра і ўмела перадаў рытмічныя асаблівасці верша.

**Выпадак нечуваны --**
**Забіла пані пана;**
**Забіла і хавае**
**Ля ручая, ля гаю,**
**Лілеі там саджае;**
**Саджаючы спявае:**
**"Расціце так высока,**
**Як пан ляжыць глыбока;**
**Як пан ляжыць глыбока,**
**Расціце так высока!"**

Слушная заўвага Варабея, што ў перакладзе балады "Лілеі" "глыбока перададзены ўнутраны драматызм твора, захаваны каларыт арыгінала, цудоўна ўзноўдены вобразы, матывы і асаблівасці міцкевічаўскага верша". Максім Танк выступіў і тут як вялікі мастак і знаўца паэзіі Міцкевіча.

Па-майстэрску пераклаў Танк паэму "Фарыс". Ён узнавіў зменлівы і дынамічны рытм верша, яго алегорыі, маштабныя вобразы, метафарычнасць, мастацкую палітру слова і надзвычайную дакладнасць у дэталях.

Прывабіла Танка і паэма Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш". У творы побач з апісаннем жыцця польскай ваколічнай шляхты дадзены цудоўныя карціны беларускай прыроды. Адну з гэтых карцін -- апісанне "матэчніка" ў пушчы пераклаў на беларускую мову Максім Танк. Ён добра ўлавіў светлы гумар і мяккі лірызм, якія адчуваюцца ў апісанні "звяроў і птушак царства, зелені сталіцы".

**[Заканчэнне на 8-й стар.].**

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**13 кастрычніка, чацвер**

## ТРАМВАЙ ПАЙШОЎ!

Будаўніцтва электрычнага трамвая было распачата ящчэ перад першай сусветнай вайной мінскімі гарадскімі ўладамі. Гэта стала магчымым пасля таго, калі гарадская ўправа ў канцы 1912 года выкупіла ў акцыянернага таварыства Мінскую конна-чыгуначную дарогу (конку). Была пераабсталявана гарадская электрычная станцыя, узведзены будынак трамвайнага парка, пракладзена значная частка пуцей. Будаўніцтва кансультаваў вядомы вучоны -- прафесар Г.Дубелір. Аднак ваенныя дзеянні наблізіліся да Мінска, і ў канцы 1927 года работы былі спынены.

Конка ж у Мінску працавала і пасля рэвалюцыі, яна толькі ў 1927 годзе была заменена аўтобусам. У канцы 20-х гадоў горад уяўляў сабой вялікую будаўнічую пляцоўку і яму патрэбен быў новы, больш эфектыўны і надзейны гарадскі транспарт. Вырашылі будаваць у горадзе трамвай, праект якога распрацавала Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча, а работы выконваў "Трансбуд". Амаль усё абсталяванне, у тым ліку і вагоны, рабілі на айчынных заводах.

Менш чым праз паўтара года будаўніцтва было завершана. Трамвайныя рэйкі працягнуліся на Таварную станцыю, вакзал, плошчу Свабоды, Камароўку. Асноўны шлях праходзіў па Маскоўскай і Савецкай (цяпер праспект Ф.Скарыны) вуліцах. Электразабеспячэнне давала пераабсталяваная электрастанцыя на беразе ракі Свіслач (побач з будынкам сённяшнаяга цырка).

Пуск трамвая адбыўся ў нядзелю 13 кастрычніка 1929 года. На ўрачыстасцях выступіў старшыня СНК БССР М.Галадзед. З таго часу мінскі трамвай спраўна і бездакорна служыць жыхарам і гасцям сталіцы. Сёння акрамя Мінска трамвай ёсць у Віцебску, Навапалацку і Мазыры. У дапамогу мінскаму трамваю, акрамя аўтобусаў, тралейбусаў і аўтамабіляў таксі, па дзвюх падземных трасах шпарка шыбуюць вагоны метрапалітэна.

**У. КІСЯЛЁЎ.**

**24 кастрычніка, панядзелак**

## ДАСЛЕДЧЫК ЦАРСТВА ХОЛАДУ

Маёнтак бацькоў Аляксея Бялыніцкага-Бірулі знаходзіўся ў вёсцы Бабкоў Аршанскага павета. Дарэчы, сярод сваякоў вучонага былі два вядомыя мастакі -- Васіль Паленаў і ягоны вучань Вітаўт Бялыніцкі-Біруля.

Усё сваё жыццё А.Бялыніцкі-Біруля прысвяціў даследаванню прыроды, збіраў і вывучаў расліны, марскіх жывёлін. Сорак чатыры гады працаваў у Заалагічным музеі на Васільеўскім востраве ў Пецярбургу, быў дырэктарам гэтага музея, прафесарам універсітэта.

У 1899 годзе вучоны ўдзельнічаў у экспедыцыі на Шпіцбергене. Але самая значная падзея ў ягоным жыцці -- удзел у Палярнай экспедыцыі, якую ўзначальваў геолаг і географ Эдуард Толь. Пачалася экспедыцыя 8 ліпеня 1900 года. У Таймырскім заліве крыгі не прапусцілі карабель на ўсход. 11 месяцаў знаходзіліся падарожнікі ў лёдавым палоне. Гэты час, нягледзячы на хваробу, даследчык выкарыстаў для збору гербарыя на голых сланцах паўвострава Чэлюскіна. Ён першы апісаў кволую расліннасць гэтай мясцовасці. У часе плавання (1900--1901 гады) было зроблена даследаванне планктону, адкрыты новыя яго віды.

11 траўня 1902 года А.Бялыніцкі-Біруля адправіўся даследаваць жывёльны свет самага ўсходняга Новасібірскага вострава Новай Сібіры. Экспедыцыя была вельмі паспяховая. Вучоны сабраў новыя, невядомыя раней віды раслін, пашчасціла яму назіраць і апісаць ружовую чайку. Мала каму выпадала назіраць гэтую прыгажуню Поўначы.

Вучоны прывёз з сабою багаты матэрыял, які апрацоўваў некалькі гадоў. Навуковы свет ацаніў заслугі даследчыка. У 1923 годзе Расійская акадэмія навук абрала яго членам-карэспандэнтам. Імя А.Бялыніцкага-Бірулі носяць заліў і гара на беразе Таймырскага паўвострава.

**Наталля САНЬКО.**

## 100 ГАДОЎ СЯДЗІБЕ Ільі РЭПІНА



На маляўнічым беразе Дзвіны, за 16 кіламетраў ад Віцебска, узноўлены Дом-сядзіба вялікага рускага мастака І. Рэпіна. У 1892 годзе ў Здраўневе Рэпін набывае дом, а ў 1894-м пасяляецца ў гэтым дзівосным па прыгажосці і зацішнасці месцы. Тут славуты майстар пэндзля стварае свае карціны "Восеньскі букет", "Дуэль", "Беларус", мноства накідаў і малюнкаў.

Цяпер у рэпінскай сядзібе створаны музей вялікага мастака, куды прыязджаюць шматлікія госці з блізкага і далёкага замежжа.

НА ЗДЫМКУ: музей-сядзіба Ільі Рэпіна ў Здраўневе.

Фота Аляксадра ХІТРОВА.

## ХАЙ НАША ДАРОГА МОСЦІЦЦА ТОЛЬКІ КВЕТКАМІ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

У "Дзядах" зацікавілі беларускага перакладчыка бунтарскія вершы Міцкевіча. Для прыкладу Танк узяў песню, якую пяе ў першай сцэне Фелікс Кулакоўскі:

**Не дбаю, якое пракляцце**
**Спадзе -- ці Сібір,**
**ці кайданы, --**
**Заўсёды, як верны**
**падданы,**
**Гатоў на цара працаваць я.**

**Я думаю ў шахце**
**падземнай,**
**Узрываючы глыбы цяжкія:**
**З руды маёй**
**зробяць, напэўна,**
**Сякеру на царскую шыю.**

На мой погляд, Максіму Танку як перакладчыку найлепей удалося выявіць тонкія і глыбокія душэўныя перажыванні Міцкевіча ў вядомай лірычнай мініяцюры "Паліліся мае слёзы, як дождж чысты і краплісты", якую польскі паэт напісаў ужо ў канцы трыццатых гадоў XIX стагоддзя. Танк дабавіў тут параўнанні, якіх няма ў арыгінале, і дзякуючы ім атрымаў зусім добры эфект:

**Паліліся мае слёзы,**
**як дождж чысты**
**і краплісты,**
**На маленства, што**
**было анельскім, сельскім,**
**На юнацтва час мой**
**шумны, неразумны,**
**А таксама на век сталы,**
**век няўдалы:**
**Паліліся мае слёзы,**
**як дождж чысты**
**і краплісты...**

Анатоль Варабей мае рацыю, калі сцвярджае, што "выяўленчае багацце беларускай мовы дазволіла Максіму Танку надзвычай дакладна перадаць тонкія і глыбокія душэўныя перажыванні польскага паэта. Перакладчык захаваў шчырасць і прастату верша, яго значную абагульненасць".

Максім Танк добра адчувае паэзію вялікага мастака слова Адама Міцкевіча, і, дзякуючы перакладам, творы аўтара "Пана Тадэвуша" і на беларускай мове жывуць сваім жыццём.

Калі творы Міцкевіча на Беларусі ведае амаль кожны вучань сярэдняй школы і ў розных перакладах можа чытаць іх на сваёй роднай мове, то творы Юльюша Славацкага не маюць такой багатай гісторыі.

Славацкі таксама ў маладосці жыў на беларускай зямлі, сустракаўся з беларускім фальклорам, у беларускай вёсцы Балтупі ля Ашмян ён праводзіў канікулы ў 1826 годзе, не раз праязджаў праз Беларусь. Але яго паэзію беларусы пераклалі на сваю мову толькі ў 1959 годзе. На 150-годдзе з дня нараджэння Славацкага выйшаў на беларускай мове зборнік паэзіі "Выбранае", куды былі ўключаны некаторыя вершы паэта ў перакладах Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Семяжона, Піліпа Пестрака і К.Паўтажыцкага, а таксама паэмы ў перакладах Максіма Танка ("У Швейцарыі"), Сяргея Дзяргая ("Бацька зачумленых"), Петруся Макаля і Артура Вольскага ("Ян Бялецкі"), К.Паўтажыцкага ("Шанфары") і трагедыя "Мазепа" ў перакладзе Максіма Лужаніна і Алеся Звонака.

Паэма "У Швейцарыі" -- гэта адзін з шэдэўраў не толькі польскай, але і сусветнай літаратуры. Выдатны мастак, Максім Танк добра ведаў, які твор Славацкага выбраць, каб перакласці на беларускую мову. Паэма досыць складаная, але ў перакладзе Танка адчуваецца незвычайная яе меладычнасць, музыкальнасць і выразнасць верша. Паэма па-беларуску гучыць запаволена, урачыста, з адценнем элегічнасці і суму. Беларускі перакладчык захаваў экспрэсіўны лад паэмы, даволі дакладна ўзнавіў яе лірыка-філасофскую змястоўнасць, элегічную танальнасць.

Анатоль Варабей, даследчык сувязей Максіма Танка з польскай літаратурай, слушна падкрэслівае, што ў перакладзе паэмы "назіраецца пэўны ўплыў уласнага творчага стылю беларускага паэта".

Паэзія А.Міцкевіча і Ю.Славацкага, вельмі дарагая для кожнага паляка, у перакладах Максіма Танка знайшла на Беларусі аматараў, удзячных чытачоў сярод жыхароў беларускіх гарадоў і вёсак. Творы Міцкевіча і Славацкага на беларускай мове -- гэта таксама добрая дарога да ўзаемаразумення нашых народаў. Хай гэта дарога мосціцца толькі кветкамі.

**Мечыслаў ЯЦКЕВІЧ.**
Ольштын, Польшча.

**Марцін КОЎЗКІ**

## САТЫРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

Іншы ахвотна згодзіцца, што памыліўся, але спачатку прызнае, што ён меў рацыю.

І сабака не гаўкне, калі знае, што не пачуюць.

-- І нас публікуюць, -- выхвалялася памылка друку.

Каб лунаць, неабавязкова лятаць, дастаткова ўявіць іншых ніжэйшымі за сябе.

Каб выкапаць яму другому, трэба мець грунт пад нагамі.

Калі кароль голы, кпяць з ягонай світы.

Калі спаборнічаюць двое, апошні прыходзіць да фінішу адным з першых, а першы -- перадапошнім.

Калі я супраць тых, хто "за", гэта не значыць, што я за тых, хто супраць.

Калі гаворыш не тое, што думаеш, не здзіўляйся, што робіш не тое, што хочаш.

Кропку над "і" можа паставіць і муха.

Лес сякуць -- парк садзіць будуць.

Любіў маршы Шапэна... за труной сваіх ворагаў.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 6 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1435.
Падпісана да друку 10. 10.1994 г.